№ 1-2 [16-17]

СТУДЗЕНЬ - ЛЮТЫ
1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# АХВЯРНАСЬЦЬ

Спаміж розных дзейнікаў, якія маюць паважныя ўплыў на чалавека і на цэлыя грамадзтвы, ахвярнасьць займае адно з пачэсных мейсц. Не дарма з найдаўнейшых часоў найбольш урачыстаю формаю пашаны Боства былі ахвяры. У гэтым сэнсе і самае слова ахвяра служыла і служыць для азначэньня рэлігійнага абраду, падчас якога зьнішчаецца нейкая змысловая рэч для ўслаўленьня Бога.

Потым пачалі ня толькі змысловыя рэчы ахвяроўваць на Божую славу, але згодна з аб'яўленьням пачалі ўжываць і духовыя ахвяры, вартасьць якіх беспараўнаньня большая чым змысловых. Ужо прар. Давід з сумам прычытваючы аб сваім грахоўным упадку казаў: «Бо калі-б Ты захацеў ахвяры, я пэўна даў-бы: але з цэлапаленьня Ты рад ня будзеш. Ахвяра Богу дух пакутны; сэрца збалелае і пакорнае, Божа, ня зьнішчыш» (Пс. 50, 19).



Паясьненьне глядзі ў тэксьце. Стар. 2.

Сёньня ў штодзенным жыцьці ахвяраю называем усякае дабро, якое прыносім Богу, ці проста зракаемся гэтага дабра ў імя нейкага вышэйшага ідэалу.

Разрозьніваем патройнага роду дабро, ці багацьцё, якім валодае чалавек: духовае дабро (сама душа з яе сіламі, здольнасьцямі і адароністю) — з гэтага можна рабіць найбольшую ахвяру, калі сама душа аддаецца Богу нутраным актам, ці пабожным жыцьцём; цялесныя дабра (краса цела, задаваленьні, прыемнасьці, насалоды і пад.) — ахвяру з гэтых дабраў робіцца паўстрымоўваючыся ад іх, або зусім зракаючыся карыстаць з іх, а ў найвышэйшай ступені, калі церпіцца мучаніцтва; матэрыяльныя багацьці і дабра, гэта ўсё тое, што можна лічыць і важыць. З іх найлягчэй рабіць ахвяру ўжываючы беспасрэдна для ўслаўленьня

Бога, або пасрэдна, калі дзелімся імі з сваімі бліжнімі ў імя любові Бога.

Прыглянуўшыся да гісторыі людзтва і да свайго ўласнага жыцьця, убачым, што ахвяры суправаджаюць усе важнейшыя падзеі ў сьвеце і ў асабістым жыцьці кожнага з нас. Самае нараджаньне чалавека вымагае немалое ахвярнасьці мацеры — яна абмывае сваею крывёю прыход на сьвет кожнага дзіцяці. Кожны рух жывое істоты дзеецца коштам зьніштажэньня каморачак свайго-ж цела. Адкупленьне людзтва з палону першароднага граху даканалася коштам крывавае ахвяры Хрыста на Крыжы. Кожная перамога ў вайне купляецца крывёю і жыцьцём змагароў. Кожнае асягненьне ў навуцы дзеецца коштам ахвярнае працы вучоных.

Нельга так-жа не заўважыць, што ўсё паўстаўшае коштам вялікіх ахвяраў, мае вялікую жыцьцёвую сілу. Найбольшая ахвяра, якую бачыў сьвет — крыжовая ахвяра Хрыста-Бога на Крыжы спалучаецца з найбольшаю перамогаю, якую бачыў сьвет — з уваскрасеньнем, і ёсьць сымбалем вечнага жыцьця. Рымскія катакомбы — масавыя магілкі мучанікаў хрысьціян сталіся нявычарпальнаю крыніцаю духовае моцы, а перад абразамі сьвятых мучанікаў пры кожнай нагодзе можна пабачыць гаручыя сьвечкі і жывыя кветкі, як знак, што іх учынкі вечна цьвітуць жывым цьветам і запальваюць да вышэйшага жыцьця. На магілах гэрояў так-жа ня зводзяцца кветкі

Наадварот — народы ў якіх жанчыны стараюцца ўцячы ад ахвяры мацярынства — няўмольна выміраюць. Бясьсьледна гінуць людзі, якія выракаюцца ўсякае ахвярнасьці, памяць аб іх хутка пасьля сьмерці йдзе ў нябыцьцё, магілы раўняюцца з зямлёю, а помнікі, нават найбольшыя, зарастаюць мохам.

Не абвязкава трэба заглядаць у Сьвятое Пісаньне, каб пабачыць, што ахвяры маюць нейкую надзвычайную сілу. Гэтая сіла палягае на тым, што ахвяра лучыць чалавека з Богам, таму мае такі жыватворчы ўплыў на людзкую душу. Сам Бог загадаў прароку Майсею асьвяціць першую сьвятыню ахвярнаю крывёю і ўстанавіць у гэтай сьвятыні штодзенныя й цэлапальныя ахвяры. Сам Богачалавек Ісус Хрыстос, каб паяднаць людзей з Богам прынёс самога Сябе ў ахвяры. Першыя хрысьціяне малюючы сымбалічна гэтую Хрыстову ахвяру як пэлікана, прабіваючага сабе грудзіну, каб карміць сваіх птушанят, умяшчалі яго на сяміраменным, вечнацьвітучым дрэве жыцьця на тле сямёх сфэраў, якія даўней ужываліся для азначэньня сусьвету, найлепш выказваючы гэткім спосабам сусьветнае значэньне ахвяры. На ахвярах першых хрысьціян і мучанікаў расла і мацавалася Хрыстовая Царква. Упаўшыя грамадзтвы, калі падымаліся, дык так-жа толькі коштам ахвяраў.

Перайходзячы ад даўнамінулых падзеяў, да сучасных дзён, мы ня раз знойдзем шматлікія прыклады магутнага дзеяньня ахвяры ў сваім-жа асяродзьдзі. Як дробны прыклад да вышэйсказанага можа служыць падзея, якая свайго часу была знайшла нават водгульле на старонках прэсы. У адну скамунізаваную апушчаную вёску ў 1936 г. прыехалі нечакана двох айцоў місыянэраў; адзін старэйшы, а другі толькішто высьвячаны. На першую навуку старэйшага айца сабраўся невялікі гурт слухачоў, а на другую навуку маладога айца сабралася вялікая колькасьць цікавых так старых, як і маладых. Першы раз у сваім жыцьці прамаўляў да народу місыянэр. Яго сьціплая постаць і бледнае, худое аблічча ажывілася на від сваіх блізкіх, але зьведзеных на бездарожжа братў. Ягоныя вочы іскрыліся нявымоўным жарам. Усю сваю істоту ён укладаў у словы — ня мова, але запраўдны агонь любові вырываўся з ягоных вуснаў. Народ з затоеным дыханьнем слухаў нячутыя дагэтуль словы. Але раптам місыянэр закашляў, замоўк, хутка закрыў рот насаткаю, але яна адразу стала чырвонаю. Назаўтрае ён аддаў Богу сваю, палаючую любоўю, душу, а старэйшы айцец у назначаны час зноў выйшаў на казаньне. Гэтым разам ужо даслоўна ўся вёска была сабраная перад місыянаром, а ён перш чым распачаць сваю навуку, высока ўзняў перад сабранымі акрываўленую насатку свайго малодшага сябры і... стаўся цуд! Перад гэтаю акрываўленаю шматкаю ўсе прысутныя ўпалі на калені, бойныя сьлёзы пацяклі ня толькі з жаночых вачэй, і... вёска зьмяніла сваё аблічча да непазнаньня. Спавядаліся тыя, якія з роду ў споведзі ня былі і тыя, якія больш сарака год у царкву не паказваліся; цалаваліся з сабою тыя, якія яшчэ ўчора пагражалі адзін аднаму кулакамі і прыракалі вечную помсту.

Бясспрэчна гэта дробнае і вельмі сваяроднае здарэньне, але яно зьяўляецца наглядным доказам нявымоўнай сілы дзеяньня ахвяры.

І калі мы сёньня з шматлікіх вуснаў, з старонак прэсы і з свайго назіраньня з сумам чуем адну і тую-ж непацешную навіну аб хваробах нашага эміграцыйнага жыцьця, аб муках сваіх суродзічаў там на бацькаўшчыне, і калі маем яшчэ на толькі добрае волі, што хочам шукаць ратунку і рады на гэтыя грамадзкія хваробы і цярпеньні, дык ці-ж можам недаглянуць і недацаніць гэтага магутнага жыватворчага дзейніка, якім ёсьць ахвяра?

Згодна з царкоўным календаром якраз цяпер распачынаем Вялікі Пост, які асабліва прыдатны і спрыяючы для розных ахвяраў. Мы зьвяртаемся з гарачым заклікам да ўсіх беларусаў, да якіх дойдзе гэты голас і хто не забыўся аб сваёй душы і каму народная справа ляжыць на сэрцы, не пашкадаваць усякіх магчымых ахвяраў у намераньні аздараўленьня нашых грамадзкіх хваробаў. **Мы заклікаем усіх асабліва трэці тыдзень Вялікага Посту (27-III да 3-IV) правесьці згодна з духам прыказаньняў Сьвятое Царквы.** Хай кожны паводля магчымасьці дадасьць яшчэ ў гэтым часе свае ахвяры і прызначыць іх для выпрашэньня ў Бога вялікіх ласкаў для народу й Бацькаўшчыны.

Сучаснае бядовае эміграцыйнае палажэньне бальшыні з нас не дазваляе на матэрыяльныя ахвяры, але затое вельмі спрыяе ахвяроўваць Богу свае цярпеньні, свае выгоды і нявыгоды. свае прыемнасьці і няпыемнасьці, свой боль і свой сум, свае малітвы, свае добрыя ўчынкі. Для салідарнасьці з нашымі братамі мучанікамі на засланьні і ўдома паўстрымаўмася ад усякіх гульняў у гэтым часе, а найважнейшае ачысьцім свае душы ад грахоўнага бруду, каб магчы іх чыстымі ахвяраваць Богу і каб стацца годнымі таго вялікага шчасьця, што Бог прыме нашы ахвяры і нашы добрыя намеры ў свае адвечныя пляны і хутка ажыцьцявіць іх.

# Манлівая вера

Бязбожнікі ніколі ня былі абыякавымі супраць рэлігіі. Яны дзе толькі маглі, і як маглі паборвалі ды падкопвалі яе. Больщ таго: мала было такіх апосталаў у сьвеце, якія рабілі-б толькі стараньняў для накідваньня сваіх поглядаў іншым, як гэта робяць бязбожнікі ў пашырваньні свайго бязбожніцтва. Да гэтага трэба дадаць, што адзіна толькі бязбожнікі ўжываюць найгрубейшае сілы, найагіднейшых подступаў і найгоршае маны для вынішчэньня запраўднае рэлігіі. Усё гэта не аднаму падказвала думку, дабачваць у дзейнасьці бязбожнікаў, зьдзейсьненьня прароцтва сьв. Івана зьмешчанага ў Апакаліпсе аб прыхадзе і дзейнасьці Анціхрыста.

І запраўды выглядае так, што сучасныя нам падзеі больш чым калі маюць сувязь з Апакаліпсаю. Пэўна, што ня ўсе апакаліптычныя падзеі зьдзейсьніваюцца цяпер, аднак так-жа цяжка не згадзіцца, што падзеі ў некаторых краінах вельмі напамінаюць некаторыя абразы з аб'яўленьня сьв. Івана, таму нічога дзіўнага, калі апошнімі часамі ня раз можна пачуць думку, што на долю сучаснага пакаленьня выпала перажываць апакаліптычныя часы. Ня будзем займацца даказваньнем ці аспрэчваньнем гэтае думкі, бо Апакаліпса належыць да тых прароцкіх кнігаў, што да якіх яшчэ няма канчатковага паясьненьня, але зьвернем увагу на тыя падзеі, якія маглі-б быць нейкім адгалоскам з аб'яўленьня сьв. ап. Івана.

Ніколі яшчэ да гэтага часу людзі ня бачылі такога масавага вынішчаньяня насельніцтва, як тое мела мейсца ў таталітарных дзяржавах нашых дзён, у іхных канцэнтрацыйных лягэрах і падзямельлях тайнае паліцыі, ды бязьлюдных ваколіцах.

Ніколі да гэтага часу так не панавала хлусьня і мана, як у нашых часох. Запраўды выглядае, быццам настала панаваньне «бацькі маны» — нячысьціка. Людзям, якія цярпяць страшэнную бяду, умаўляюць аб шчасьлівым жыцьці; грабяць народ да жабрацтва і ўмаўляюць ім, што гэта ёсьць дабрабыт і багацьцё; б'юць і ня толькі плакаць не даюць, але яшчэ кажуць песьні пяяць на чэсьць катаў і скакаць з радасьці.

Але найбольш подступаў праяўляюць бязбожнікі ў заспакойваньні найглыбейшых і найшчырэйшых жаданьняў людзкое душы да вечнага шчасьця, да Праўды, да Любові, да Красы — да Бога. Заспакаеньне гэтага імкненьня нармальна чалавек знайходзіць у рэлігіі. Дык вось бязбожнікі, ці мо' лепш кажучы, той «бацька маны» стварыў сваю манлівую веру, подступнае веравызнаньне, якое да найменшых драбніцаў прыпадобніваецца да найбольш актыўнага і найбольш уплывовага вервызнаньня на Захадзе Эўропы, да Каталіцызму, каб гэткім спосабам магчы зманьваць людзей да загубы. Камуністы ў тэорыі і ў практыцы пераканаліся, што адзінаю перашкодаю ў іхняй бязбожнай дзейнасьці ёсьць Каталіцкая Царква. Усе іншыя Цэрквы яны змаглі апанаваць, а нават паняволіць сабе на службу і карыстацца імі для свае прапаганды. Затое супраць Каталіцкае Царквы вядуць лютае змаганьне адначасна манліва прыпадобміваючыся да яе вонкава.

У манлівым веравызнаньмі: —

Замест усемагутнага і ўсюдыпрысутнага **Бога** прынята матэрыю. Гэта нічога, што сёньня разьбіўшы атам, замест матэрыі знайшлі згустак энэргіі, бязбожнікі і далей трымаюцца нязьменна свайго матэрыялізму.

**Творчы акт** Бога замянілі сьляпым прыпадкам. Нават жыцьцё мела паўстаць прыпадкам і прыпадкам жыцьцёвыя формы зьмяняюцца да штораз дасканальшых. Прыпадак стае нейкім ідаламбажком.

**Рух** у сьвеце і **прыродныя законы** прызнана вечнымі, не зважаючы на тое, што фізычнае права энтропіі найвыразьней даказвае недарэчнасьць гэткае думкі.

**Мэтазгоднасьць** і **парадак** у сьвеце прыпісваецца самой прыродзе, а ня Божаму правіду. Агулам усю багаслоўскую навуку бязбожнікі падмянілі розным пустамельствам прыкрытым для большае ханабэрыі рознымі іншамоўнымі словамі, як: эвалюцыя, прагрэс, дыялектыка, матэрыялізм і ін., якімі стараюцца пускаць дым у вочы маласьведамым.



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Калі ўсе рэлігіі прызнаюць, што найдасканальшым творам на зямлі ёсьць чалавек, а на небе чыстыя духі — **анёлы,** дык адны з бязбожнікаў найдасканальшымі ўважалі сваю расу, другія найдасканальшымі істотамі ўважаюць толькі пралетарыяў.

Рэлігія навучае, што **мэтаю жыцьця** чалавека на зямлі ёсьць выконваньне Божых прыказаньняў, каб заслужыць на вечнае шчасьце ў будучым жыцьці — бязбожнікі кажуць, што мэта іхняга жыцьця ёсьць вынішчэньне ўсіх непралетарыяў у клясавай барацьбе, тады збудуюць рай на зямлі. (Магчыма — як ня будзе ўжо каго вынішчаць). Шчасьлівае загробнае жыцьцё, якое Бог прызначыў для кожнага чалавека, яны замяняюць нейкім лепшым жываценьнем будучых пакаленьняў пралетарыяту.

Замест вечнага шчасьця ў небе для бязбожніка **нагародаю** мае быць заспакаеньне ўсіх змысловых гонаў; у гэтым бачаць сэнс жыцьця і сваё шчасьце, хоць да гэтага часу яшчэ ніводзін чалавек ані яны самі не асягнулі шчасьця гэткім спосабам, хоць як стараюцца ўмовіць у сябе гэтае шчасьце.

**Пекла** — як вечную кару для злачынцаў замяняюць канцэнтрацыйнымі лягэрамі і катаржнымі працамі. Тут запраўды бязбожнікі праяўляюць спрыт, якому нячысьцікі могуць ня раз пазайздросьціць.

Біблійных **прарокаў** замянілі новамоднымі, як: Маркс, Энгельс, ды інш. клясыкі марксызму.

Замест Хрыста, як **мэсію,** бязбожнікі ўважаюць Леніна, які выканаў «прароцтвы» Маркса й Энгельса. Цела Леніна забальзамаванае і перахоўваецца з надзвычайнаю пашаню ў адумысным маўзалею ў Маскве.

Замест Хрыстовага **намесьніка** — папы рымскага, бязбожнікі і камуністы ўважаюць ленінавага намесьніка Сталіна (Язэпа Джугашвілі). Яму ўсе камуністычныя партыі ў сьвеце шлюць свае вернападданчыя лісты, усе зборкі і ўрачыстысьці праводзяць пад ягоным партрэтам.

Падобна да **кардынальскае калегіі** існуе камінформ (раней камінтэрн), дзе сходзяцца ніткі ўсіх камуністычных партыяў усяго сьвету.

Ролю рымскіх **кангрэгацыяў** выконвае палітбюро.

Мейсца **Бібліі** ў камуністаў і бязбожнікаў занялі творы Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна. Калі нейкі агітатар на пацьверджаньне нейкае свае думкі спасылаецца на торы гэтых «прарокаў», значыць гэткае думкі няма чаго аспрэчваць.

Справу збаўленьня людзкіх душ Хрыстос даручыў **сьв. Царкве,** якую Сам дзеля гэтага заснаваў. — Бязбожнікі для выкананьня сваіх плянаў зарганізавалі камуністычную партыю, якая на абшары свае ўлады ня церпіць ніякіх іншых партыяў. Бязбожнікі, якія не ўвайходзяць у сябры камуністычнае партыі ёсьць падобнымі да розных **сэктаў,** якія паадлучаліся ад першапачаткавае Хрыстовае Царквы, але як сэктанты ўсё-ж астаюцца далей хоць часткава **хрысьціянамі, так** непартыйныя бязбожнікі зьяўляюцца камуністамі, толькі іншае масьці і менш пасьлядоўнымі, а часам нават зусім непасьлядоўнымі, баючыся дайсьці да канца па тым шляху, які сабе абралі, і як гэта зусім лягічна робяць камуністы. У адносінах да хрысьціянства, яны ўсе робяць тую самую руйнацкую работу, таму між імі ня робім розьніцы.

На ўзор **навіцыятаў** пры каталіцкіх манастырох камуністы завялі аднагодні час кандыдацтва перад прыняцьцем у партыю.

Падобна да Царкоўных **сабораў** камуністы ладзяць час ад часу міжнародныя зьезды свае партыі.

Замест хрысьціянскіх **догмаў сьв.** веры — ўстаноўлена розныя клічы і лёзунгі, і пастановы агульных зьездаў.

У камуністаў не бракуе так-жа **ерасяў,** як: меншавізм, трацкізм, бухарынізм, непартыйных бязбожнікаў і ін. Сваіх ерэтыкаў камуністы караюць шмат горш, чым калішняя інквізіцыя.

Замест **багаслужэньняў** бязбожнікі вытварылі свой культ у форме розных мітынгаў, парадаў, урачыстых паседжаньняў. Толькі малітвы ня маюць, бо для іх усюды ёсьць толькі паражнеча; замест малітвы можна пачуць насьмешкі, лаянку і кпіны над усімі сьвятасьцямі.

Замест **сьвят** маюць угодкі, юбілеі.

Замест **сьвятых** — цэлую кліку сваіх «гэрояў».

Замест **сьвятароў** — шматлікія кадры агітатараў.

Замест **сьвятыняў** — клубы і чырвоныя куткі.

**Крыж** — адны бязбожнікі былі замянілі зламаным крыжам (гакэнкройц), другія скрыжаванымі серпам і молатам.

Хрысьціянская рэлігія сваю працу асноўвае на прыказаньні брацкае **любові** — камуністы яго замянілі клясаваю барацьбою і нянавісьцю да ўсіх інакшдумаючых.

Штодзень у каталіцкіх сьвятынях сьвятары паўтараюць у бяскроўны спосаб крывавую Хрыстову **ахвяру** — камуністы штодня праліваюць мора сьлёз і крыві з тысячаў жывых ахвяраў. штодня прадаўжаюць сваю крывавую рэвалюцыю. Калі бракуе вінаватых, дык бяруць да гэтага зусім нявінных, але без праліцьця сьлёз і крыві жыць ня могуць.

**Споведзь** замянілі самакрытычай.

Нават такія «дробязі», як: абрады, паломніцтвы, працэсіі, першае прычасьце (пар. прыняцьцё ў піянэры), не асталіся без падману.

На ўзор старых хрысьціянскіх **апокрыфаў,** якіх дарэчы кажучы сёньня нават і ў бібліятэках цяжка знайсьці, камуністы твораць свае новыя лягэнды.





Увесь гэты падман, хоць як бачым з дробязямі пераняў вонкавыя рэлігійныя формы, нельга ў ніякі спосаб назваць рэлігіяю, бо рэлігія гэта сувязь чалавека з Богам, а тут наадварот адцягваньне чалавека ад Бога ў бок нічогасьці, паражнечы.

— Што-ж, скажа нехта, ёсьць сотні розных вераваньняў, дык чаму-ж яшчэ і гэткаму ня быць? Так, але да чаго даводзіць гэткае веравызваньне? —Сьвет западае ў атмасфэру нянавісьці, людзтва купаецца у моры крыві і сьлёз; грамадзкія чысткі шчышчаюць ня толькі вопратку з цела, але і мяса з косьцяў.

У гэтым падмане найгоршае дык гэта тое, што яго робяць зусім сьведама для руйнаваньня людзтва, для вечнае загубы і мукі і з нячуванаю лютасьцю нападаюць на тых, хто супрацьстаўіцца гэтай руйнацкай рабоце. Мы зьяўляемся сьведкамі найдзівачнейкых і амаль штодзенных нападаў камуністычнае прэсы, радыя і арганізацыяў на Ватыкаі і на асобу Сьвяцейшага Айца. Калі прыслухацца да гэтага паклёпу, прыглянуцца да тых жудасных падзеяў, якія апошнім часам што раз часьцей здараюцца ў падсавецкіх краінах, дык запраўды маецца ўражэньне быццам самое пекла мабілізуе ўсе сілы ў наступе на Хрыстову Царкву.

У гэтым цяжкім палажэньні ня варта паддавацца сумным настроям, бо на сьвеце нічога ня дзеецца бяз Божае Волі і Яго сьвятога допусту, нават « і волас з галавы вашай не спадзе» (Лук. 21, 18), без Яго ведама. Колькі будзе прадаўжацца гэты пякольны наступ, няма ведама. Магчыма, што ўжо «блізкі час» (Апак. 22, 10), аднак Госпад яшчэ дае волю цёмным сілам: «Крыўдзіцель няхай яшчэ крыўдзіць, і справядлівы няхай яшчэ чыніць справядлівасьць, і сьвяты няхай яшчэ асьвячаецца. І вось хутка прыходжу і заплата Мая са Мною, каб аддаць кожнаму, як будзе дзела ягонае» (Апок. 22, 11-12), кажа Хрыстос.

**а. Лазар.**

# ТЫ І ЯНА

Прысьвячаецца беларускай моладзі.

## ЗАМЕСТ УСТУПУ.

Дараія сябры і сяброўкі!

Першы раз жадаю пагутарыць з Вамі. Магу Вас папярэдзіць, што радактар «Б. Ш.» згаджаецца пусьціць у друк маю пісаніну, абы толькі ў ёй не чапаў ні «крывічоў» ні «зарубежнікаў». Абяцаю, што ня буду. Праўду сказаць дык у гэты мамэнт я й ня вельмі цікаўлюся гэнымі вялікімі спрэчкамі... Ці-ж мала рэчаў на сьвеце, што нас цікаваць? ці мала між імі ёсьць так важных, што ад іх залежыць усенькае жыцьцё чалавека?.. А ёсьць нямала пытаньняў, аб якіх мы думаем, гутарым і перажываем іх, але тайком, баючыся, каб ніхто нас не падслухаў, бо будзе сорамна. Вось да гэтае катэгорыі пытаньняў належаць у першую чаргу адносіны мыжчыны да жанчыны, іхняе каханьне й расчараваньне, іхняя доля і нядоля. Сёньня ня знойдзеш фільму ці повесьці без каханьня маладых, але якжа-ж часта той вялікі цудоўна-манлівы дар каханьня мы знайходзім пераўчасна патаптаны разбрыканай людзкой натурай! Як-жа часта малады хлапец ці дзяўчына, ня ўсьпеўшы сарваць кветку радасьці каханьня, топяцца ў бязодні балота, на якім гэтая кветка пачынала расьцьвітаць.

У чым-жа тады справа?

Часта мы ня знаем, як паступаць у гэтых далікатных справах. Трэба аднак глянуць праўдзе ў вочы, трэба пазнаць, што мы маем ад Бога ў нашых плоцьных гонах? адкуль яны бяруцца? што ўзаемна цягне адных да другіх? Як належыць паводзіцца ў хвілінах найбольш небясьпечных для моладасьці?

Вось сьцяг пытаньняў, якія будуць разьвязаны ніжэй.

Дарагі чытачу! калі хоць час ад часу разважаючы над закранутымі намі пытаньнямі, будзеш гадзіцца з намі, дык гартуй свой дух, зрабі стальную пастанову паслухаць і даканаць чынам тое, што табе параяць. А ведай, што тыя, якія тут бяруцца даваць свае рады, нямала знаюць аб закалотах маладога сэрца з уласнага дасьведчаньня, з кніжак і з веры, якая йдзе непамылна на падмогу нашага меленькага сьветача — розуму. Яны жадаюць шчыра табе дапамагчы.

### РАЗЬДЗЕЛ І.

### Мэты Божага Правіду.

У створаным сьвеце ўладае прынцып: тое, што Бог можа асягнуць праз свае стварэньні, таго зноў не стварае. Тады Бог карыстаецца стварэньнем, як прыладаю. Сьвет — гэта запраўды дзіва Божае мудрасьці, у якім раз выяўленыя сілы і здольнасьці ў далейшым аднаўляюцца і разьвіваюцца без таго, каб Бог за кожным разам увайходзіў з сваім новым творчым актам.

Чалавек ёсьць вынятковым зьявішчам у сьвеце, а гэта таму, што ён мае вольную волю. Усе іншыя стварэньні кіруюцца ўстаноўленымі для іх правамі і дзеля таго выконваюць намечаныя Богам пляны бяз ніякіх абмежаваньняў. Чалавек-жа сам павінен наважыцца, ці падпарадкавацца

Божым правам, ці не. Аднак і пры вольнай волі чалавека Бог праводзіць свае пляны: Ён улажыў у натуру чалавека розныя гоны і нахілы, якія кіруюць ім у штодзенным жыцьці. Каб мы ня выбіліся з дарогі і не надужывалі іх, нас Бог перасьцерагае прыказаньнямі і пагубнымі наступствамі няпослуху гэтым прыказаньням.

Найстарэйшае апавяданьне аб пачатку людзкога роду нас вучыць, што Бог стварыў адну-адзіную, здатную да жыцьця сямейную пару. Ад не павінны былі ўзяць пачатак усе людзі. Дзеля таго Бог надарыў людзкую прыроду магчымасьцю памнажаньня людзкога існаваньня.

Дзіўна, але праўдзіва: чалавек, падобна як кожнае іншае жывое стварэньне, можа радзіць новае жыцьцё бяз шкоды для свайго ўласнага, а народжанае патомства (у нармальных абставінах) зусім дараўноўвае яму сваёю вартасьцю.

Аднак Божыя пляны толькі тады споўняцца, калі чалавек здолее выкарыстаць, так як трэба, свае прыродныя гоны. Ведама, што прыемнасьці бацькоў салодкія, але бацькаўскія абавязкі нялёгкія; дзеці нясуць з сабою цяжар клопатаў, трудоў і цярпеньняў. Беларуская прыказка кажа: «Малыя дзеці — малы клопат, вялікія дзеці — вялікі клопат; маля цяжкія на руках, а вялікія — на сэрцы». Дзеля гэтага Бог у сваёй прамудрасьці ўсё так уладзіў, што маральна ёсьць немагчымым, каб людзі ня ўступалі ў сужэнствы; Ён даў людзкой прыродзе пацяг адных да другіх і дазволіў людзям ужываць чыстае роскашы, калі толькі яны з сабою злучацца, згодна з Божым і прыродным законам.

Мы заўважваем, што Бог так стварыў мужчыну і жанчыну, што кожны з іх паадзіночна ня творыць дасканалай цэласьці. Гэта ня значыць, што кожнаму з іх чагосьці бракуе да поўнага чалавека. Не. Душа мужчыны і жанчыны ў сваёй сутнасьці нічым ня розьніцца. Але іншы склад цела спрычыняе ў ім розныя рэакцыі. Інакш тады ў розных залозках адбываецца натуральная сэкрэцыя сокаў, якія ўвайходзяць у склад крыві, а гэтым самым паўстае іншае разьвіцьцё здольнасьцяў, нахілаў і духовых патрэбаў у мужчыны чымся ў жанчыны. Душа тады будзе думаць, адчуваць, жадаць памужчынску, або пажаночаму, залежна ад таго, ці яна будзе ажыўляць арганізм мужчыны, ці жанчыны. Кожнаму з іх чагосьці не стае і акурат таго, што можа знайсьці ў іншага, і такім чынам іхнія душы ўзаемна могуць дапаўняцца й выроўнівацца.

Гэтая розьніца навонках выяўляецца ў жыцьцёвых занятках, якія йдуць у неаднолькавым кірунку; мужчына звычайна імкнецца да дзеяньня ў шыршым абсягу, да здабываньне працы, тады, калі для жанчыны найбольш натуральным зьяўляецца сямейнае жыцьцё, у якім яна рупна даглядае прыдбаны мужам дабрабыт.

Мужчына пакліканы ісьці ў жыцьцё адважна і наперабой, адкрываць і здабываць новае, змагацца з перашкодамі. Жаданьнем жанчыны ёсьць: ціха й ахвярна заапекавацца мужам, дзяцьмі, агрэць усіх сваёю дабратой і заўладаць усімі сваёю любоўю.

Вельмі важным ёсьць факт выраўнаньня, што бязупынна адбываецца між духовасьцю мужчыны і жанчыны, якога ўплыў ня лёгка выказаць і апісаць, які аднак тым ня менш моцна адчуваецца і перажываецца. Мужчына адчувае патрэбу выказацца аб тым, што яго спаткала, што яго цікавіць і што гнобіць. Ён тужыць за спагадным зразуменьнем, за ацэнкай свае працы, за чулым спачуцьцём і пацяшэньнем. Вяртаючыся з працы, якая прайходзіць у неспакойных і зьменных жыцьцёвых абставінах, ён жадае мець адпружаньне і скінуць на некаторы час вяжучую яго прымусовасьць, ды паказаць сябе такім, якім ёсьць, нават са сваімі слабасьцямі. Гэтак цяжка яму паказвацца нават перад найлепшым сваім сябрам, у якім можа заўважыць спаборніка, ці нават завідніка свайго шчасьця. Зусім інакш з праўдзівай сяброўкай жыцьця, з жонкай, каторая сваім далікатным і быстраглядным адчуцьцём здолее ўтуліць цярпеньне, палагодзіць гнеў, дадаць сілаў і выпрастаць маральныя карабаціны мужа. Нярэдка той дабрадзейны, спагадлівы ўплыў шляхотнай жанчыны спрычыняе ледзь ня цудоўныя перамены ў паводзінах мужчыны. Думкі і пляны, якімі дзеліцца муж, знаходзяць жывое рэха ў сэрцы добрае жонкі і вяртаюцца адтуль паглыбленыя і ўшляхотненыя. Здаецца што ідэі, якія нараджаюцца ў галовах мужчын (калі яны не адносяцца ды чыста навуковых праблемаў) павінны перш чым выйсьці ў сьвет, занурыцца ў сэрца жанчыны, каб набраць значэньня жыцьцядайнае вартасьці для людзтва.

Тады, калі духовыя сілы мужчыны выяўляюцца ў досьледным, творчым і арганізуючым розуме, прыметы жанчыны выяўляюцца ў здольнасьці далікатнага адчуцьця. Жанчына выдае суд не апіраючыся на разумовых прадпасылках, але яна хутчэй інтуіцыйна адчувае слушнаць, ці няслушнасьць нейкага пытаньня.

Шырока рассыланыя анкеты на ўнівэрсытэтах у розных краінах выказалі згодна, што студэнткі перавышаюць сваіх калегаў пільнасьцю і ўдзелам у лекцыях, ясна разумеюць і хутка ўспрыймаюць выкладаны матэрыял, аднак адносна здольнасьці паглыбленьня набытае ўжо веды і дапаўненьня яе саматужнымі досьледамі, нарэшце ў крытычных асудах, лёгіцы і чыста навуковай працы пасьля ўнівэрсытэту — ўва ўсім гэтым студэнты перавышаюць сваіх сяброўак. Мы бачым, што ў галіне мастацтва, як напр.: у музыцы, малярстве, драматургіі і ін. жанчыны дагэтуль ня выказаліся ніякім творчым набыткам,



хоць у аддаваньні мастацкіх твораў яны стаяць вельмі высака. Кіраваньне хатай, хатняй гаспадаркай, кухняй і клецяй, руплівасьць аб памешканьні, вопратцы й ядзе, аб узгадаваньні дзяцей — вось прыродная сфэра ,дзе незаменна праяўляюцца ўроджаныя ўласьцівасьці жанчыны. Але ў выкананьні гэтых вялікіх заданьняў, яна патрабуе помачы мужчыны, які-б стаяў побач яе з радай і апекай, на давер якога яна магла-б аперціся, нічуць ня трацячы свае чэсьці.

Бескарысным было-б параўноваць абодва характары — мужчынскі і жаночы, каб паказаць вышшасьць каторагась з іх. Тое, што ёсьць перавагай у адным, адначасна зьяўляецца ягонаю слабасьцю. Дзеля таго ў правідзе Створцы ёсьць, каб мужчына і жанчына ўзаемна дапаўняліся, дасканаліліся. Яны павінны сябе ўзаемна разумець, адзін другому дапамагаць, бліжэй з сабою зжывацца, быць найвярнейшымі супольнікамі й сябрамі ў перажываньні радасьцяў і цярпеньняў, знайсьці ў чыстай любові вялікае і глыбокае шчасьце, якое павінна для іх стацца крыніцай сілы й волі ў выконваньні жыцьцёвых заданьняў.

(Працяг будзе).

Паводля кніжкі Шульгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя.**

# Рэлігія падымае чалавека

Для шмат каго можа здавацца непатрэбнаю тратаю часу парушаць гэтую тэму ў нашых эміграцыйных умовах. На вялікі жаль так ня ёсьць. Бяда ў тым, што ў эміграцыйным жыцьці ня раз прыходзіцца спатыкацца з рознымі недарэчнымі зьявішчамі, між якімі не апошняе мейсца займае абыякавасьць да рэлігійнага жыцьця на практыцы і прыгожымі словам пад ардысам тэтага-ж жыцьця на вуснах. Ня варта было-б аб гэтым успамінаць, каб гэта былі адзіночныя выпадкі, але нажаль гэта належыць да масавых зьявішчаў.

Праўды, пацяшаючым знакам часу ёсьць той факт, што нашы работніцкія масы, навучаныя горкім досьледам, і ведзеныя здаровую інтуіцыяю, найчасьцей гуртуюцца каля хрысьціянскіх работніцкіх сындыкатаў, або ў іншых арганізацыях з хрысьціянскімі маральнымі асновамі, але зноў-жа калі прыглянемся, калі спытаемся, якія хрысьціянскія рэлігійныя практыкі выконваюць яны, як сябры гэтых арганізацыяў і агулам як вернікі, дык пацяшаючага адказу не атрымаем. Вось чаму неабходна парушыць гэтае пытаньне, глянуць уважней на прычыны гэткіх нясуразных адносін.

Калі-б мы спыталіся: што схіляе масы нашае эміграцыі, гуртавацца каля хрысьціянскіх і ў хрысьціянскіх арганізацыях, дык мусілі-б адказваць амаль даслоўна так, як паўтараста год таму гаварыў украінскі філязоф Рыгор Скварада: «Пад бязбожніцкім сьцягам гуртуюцца ўсе ліхадзеі, усе вялікія злачынцы на сьвеце, усе бяспраўнікі, ўсе, што панявольваюць сваіх братоў, што ядуць хлеб з крыўды другіх, што ўпіваюцца нявіннаю людзкою крывёю, усе тыя, ў чыім сэрцы даўно пагас агонь любові і спачуваньня». Дык не належыць да почасьці ставацца сябрам гэткіх людзей хоць-бы толькі вонкава, толькі прыпадкова ў рамах нейкае арганізацыі, якая асноўваецца на бязбожных прынцыпах і мае паважны процант людзей вышэйпералічаных катэгорыяў. Таму і ўцякаюць нашы масы ад гэткіх арганізацыяў чым далей, ды шукаюць маральна здаровага асяродзьдзя і знаходзяць яго ў хрысьціянскіх арганізацыях.

Усё гэта вельмі добра, але бяда ў тым, што ня мінула бясьсьледна руйнацкая прапаганда, так заўзята праводжваная на нашых землях у пачатку гэтага стагодзьдзя. Не дарэмна працавалі калісь бязбожніцкія агітатары ды іхнія прыслужнікі, даказваючы, што рэлігійныя практыкі паніжаюць чалавека. Гэтыя намовы быццам скрытая атрута дзейнічаюць ў душы неаднаго ці то ў форме нейкае моды, ці ў форме прывычкі. Таму неабходна гэтай атруце супрацьдзеяць, каб ад яе вылечыцца. Але ані час, ані мейсца, ані агульны настрой, ні матэрыяльныя магчымасьці не дазваляюць на шматслоўныя, ні фахова-навуковыя доказы ў гэтай хоць і вельмі важнай справе. Зрэштаю ўжо сам факт уцёкаў ад бязбожніцкіх араганізацыяў сьведчыць, што справа знайходзіцца на добрым шляху. Важна аднак, каб на гэтым шляху не стаяць, але йсьці ўпярод ў раз абраным кірунку. Трэба ня толькі належаць да хрысьціянскае арганізацыі, але і жыць паводля хрысьціянскіх прыказаньняў, з глыбокім пераканаsuccumbньнем, што гэтым сябе не паніжаем, але павышаем.

Няхай маленькі абразок з жыцьця ў аднэй горскай вёсцы ў жывых колерах пакажа, ці рэлігійныя практыкі паніжаюць, ці павышаюць годнасьць чалавека. У названую вёску штогод зьяжджалася шмат летнікаў. Аднае нядзелі селянін вяртаючыся з Службы Божае ў сваёй парахвіяльнай царкве, стрэнуў каля свае хаты нейкага гладка й багата апраненага панка, відаць вялікага ўрадоўца. Між імі завязалася гутарка ў часе якое панок пачаў самапэўна насьміхацца з селяніна за тое, што яшчэ такі адсталы й цёмны, што няма ведама чаго ходзіць ў царкву, моліцца, дае грошы на розныя царкоўныя арганізацыі і т. пад.

— Добра, пане, адказвае селянін, дык нашто-ж мы тады жывём, калі Бога ня прызнаваць і на багаслужэньні не паказвацца?

— Як то нашто? Каб карыстаць з жыцьця,

смачна есьці, добра піць, выспацца, ды пагуляць, а на рэшту напляваць.

— Добра пляваць, як плюецца, але калі ў дамавіну ляжаш, што тады скажаш?

— Ніхто тады нічога ня кажа, і я нічога не скажу. Могуць тады мяне хоць за плот выкінуць.

— Пане ў мяне ёсьць два кватэранты, якія зусім так сама думаюць.

— Цікава было-б з імі пазнаёміцца.

— Чаму-ж не. Можна хоць цяпер.

Селянін павёў панка да прызваітага хлява, адчыніў насьцеж дзьверы і, паказваючы на двох вялікіх вяпрукоў, што выглядалі з барлогу, казаў:

— Калі ласка, будзьце знаёмыя. Той рабы, гэта пан Гнаінскі, а белы, гэта пан Памыйскі, а ваша як годнасьць? зьвяртаўся да панка, але той, пачырванеўшы маўляў бурак, уцякў ад хлява.

Памінаючы справу ветлівасьці, ці прызваітасьці гэтага здарэньня, трэба сказаць з усею шчырасьцю, што бязбожнікі ня маюць ніякага права абражацца на селяніна за гэткія паводзіны. Бо-ж паводля іх «навукі» між быдлём і чалавекам няма істотнае розьніцы. Усё гэта для іх крыху далейшыя браты. А таму, што гэтыя «браты» ані сьвятыняў ня маюць, ані рэлігіі ня вызнаюць, ані маралі ня ведаюць, дык і самі да іх хочуць прыпадобніцца. Душы, якая найбольш адрозьнівае чалавека ад неразумных жывёлаў, яны зусім не прызнаюць і ўжо тым самым сілаю гвалтам абніжаюць сябе да ўзроўню быдлят, цягнуць у барлог, а не ў сьвятыню.

На гэтым тле якраз і выяўляецца веліч хрысьціянскае рэлігіі, якая прызнаючы ў чалавека разумную і несьмяротную душу, ужо тым самым вывышшае чалавека па-над усіх жывёлаў на зямлі. Але на гэтым не канец. Хрысьціянская рэлігія, апіраючыся на Божым аб'яўленьні, на словах Ісуса Хрыста, цягне чалавека ўвысь да Бога. Яна навучае, што кожны важна ахрышчаны чалавек ёсьць запраўдным адаптаваным Божым дзецям: «Гэты самы Дух сьведчыць духу майму, што мы дзеці Божыя», кажа ап. Паўло (Рым. 8, 16) ў адзін голас з ап. Іванам, які амаль тымі самымі словамі зьвяртаецца да нас: «Умілаваныя, мы цяпер дзеці Божыя» (І, Ів. 3, 2). Толькі людзям даў Бог здольнасьць гаварыць і толькі людзей упаважніў зьвяртацца да Сябе словамі: «Ойча наш, каторы ёсьць на небе».

Бясспрэчна мы, людзі, маем шмат немачаў і недасканаласьцяў, але якраз на тое й служаць Божыя прыказаньні, рэлігійныя практыкі і абрады, каб словы Гасподнае малітвы ў нашых вуснах ня былі няпраўдзівымі, каб мы запраўды сталіся годнымі гэтага найвышэйшага сыноўства й не ляякаліся чуючы Божы заклік да нас: «Будзьце дасканалымі, як Айцец Ваш нябесны ёсьць дасканалы» (Мат. 5, 48).

Дасканаласьць сама ня прыходзіць да людзей. Трэба нямала працаваць над сабою, каб хоць троха стацца лепшым, і вось якраз у тым ёсьць веліч хрысьціянскае рэлігіі, што нас немачных і слабых азбройвае ў духовае аружжа да барацьбы з гэтымі слабасьцямі і дае магчымасьць атрымаць ад Бога ласку перамогі і нагароду за гэтую перамогу: «Хто пераможа, возьме ўспадчыну ўсё, і буду яму Богам, і ён будзе Мне сынам» (Апак. 21, 7).

Апосталы пры кожнай нагодзе не забываюць з асаблівую ўвагаю падчыркнуць гэтую важную і пацяшаючую для нас навуку, аб Божым сыноўстве: «Ты ўжо ня раб, але сын, а калі сын, дык і насьледнік Божы праз Хрыста» (Гал. 4, 7), урачыста заяўляе ап. Паўло.

Ці можна яшчэ больш падняць чалавека? Ці агулам нешта большае, нешта вялічавейшае можна падумаць? Ясна, што не!

Дык ці разумна пасьля гэтага ўхіляцца ад рэлігійных практык і прыпадобніваць сябе ў практычным жыцьці да бязбожнікаў, а тым самым і да неразумных жывёлаў? Напэўна так-жа не!

А калі так, дык ня баймася паказаць, што маем зазначаную рэлігію ня толькі ў сваіх дакумантах, але і ў сэрцы.

**а. Леў.**

# ПОЛАЧЧЫНА Ў XII ВЕКУ

Мала ёсьць такіх цікавых пэрыядаў у нашай гісторыі, як гісторыя Полаччыны ў 12-м веку. Восем соцень гадоў адзьдзяляе нас ад таго веку, але карані нашае культуры, нашых звычаяў, абычаяў і нашага духовага аблічча злучаны з ім неразлучна, таму ня будзе без карысьці глянуць уважней на яго.

Пачатак XII-га веку належыць да тых нешматлікіх сьветлых мамэнтаў нашае гісторыі, калі злучаныя вакол Полацку нашы землі тварылі магутную дзяржаву пад кіраўніцтвам слаўнага Усяслава Вялікага званага Чарадзеям (1044-1101).

Неспакойны пачатак княжаньня Усяслава, пасьля пераменнага шчасьця ў шматлікіх баёх і змаганьнях давёў Полаччыну да таго, што суседзі ня важыліся турбаваць «грозных палачан». У апошнія гады свайго княжаньня Усяслаў здабыў такую пашану і аўтарытэт у суседніх князёў, што аб ім адзываецца аўтар «Слова аб палку Ігараве» славамі: «Усяслаў князь людзям суды судзіў а князём гарады ўпраўляў».

Гэты спакойны пэрыяд выдатна прычыніўся да матэрыяльнага, культурнага і духовага развою Полаччыны. На гэтым мейсцы нас найбольш цікавіць тагачаснае духовае аблічча нашага краю, таму ў далейшым зьвернем на яго большую ўвагу.



Полацк, адзін з найстарэйшых гарадоў Беларусі, аб ім успамінаецца ўжо ў 862 г., у ім быў найстарэйшы япіскапскі пасад, заснаваны праўдападобна ў 992 г., або найпазьней у 1005, у ім знаходзіліся найстарэйшыя і найслаўнейшыя нашы хрысьціянскія сьвятыні, наймацнейшы цэнтр манашага жыцьця і асяродак распаўсюджваньня кніжнае асьветы і самых кнігаў. Ужо ў XI веку Полацк быў духовым сталіцаю нашае бацькаўшчыны, таму нічога дзіўнага, што на ўзор візантыйскае, кіеўскае і ноўгарадзкае сьв. Сафіі Усяслаў выбудаваў між 1044 і 1066 (некаторыя думаюць што пазьней) полацкую мураваную царкву сьв. Сафіі. Заваяваўшы Ноўгарад у 1066 г. Усяслаў перавёз адтуль у Полацк званы, панікадзіла ды іншую царкоўную маемасьць.

Сам Усяслаў і ўсе яго сыны азначаліся глыбокаю вераю і шчыраю пабожнасьцю. Гэтую веру, відаць, добра ведалі суседнія князі, ды часам яе подступна выкарыстоўвалі. Напрыклад пасьля бою на Нямізе ў 1067 кіяўскія Яраславічы: Ізяслаў, Сьвятаслаў, і Усевалад запрасілі Усяслава на перагаворы пад Смаленск і цалавалі крыж, што ня будуць чапаць яго і ня ўчыняць ніякага ліха. Давяраючы гэтаму крыжацалаваньню, Усяслаў разам з двумя сынамі прыйшоў у азначанае мейсца да Яраславічаў, а тыя замест перагавораў, адразу схапілі яго і адаслалі ў кіяўскі паруб. Седзячы ў парубе, Усяслаў падтрымоўваў сябе малітваю да сьв. крыжа. Хутка гэтая малітва была выслухана і ён ня толькі вызваліўся з парубу, але быў запрошаны на вялікакняжны кіяўскі пасад. Аднак любоў да роднага Полацку мацней валодала сэрцам Усяслава, чым золатакованы чужы пасад, таму й пяяў аб ім баян: «дакрануўся спісай залатога пасаду Кіяўскага, скочыў ад яго лютым зьверам а поўчаны з Белгараду, завесіўшысь сіняй імглою...» і скочыў туды, дзе яго клікаў так дарагі сэрцу звон: «яму ў Полацку рана пазванілі ў званы на завутраню ў сьвятой Сафіі, а ён (гэты) звон у Кіяве пачуў». Няўстрашны харэктар, няўтомная энэргія і непахісная вера Усяслава далі прычыну для ўтварэньня песень і лягэндаў навокал ягонае асобы і падказалі назоў Чарадзея.

Памёр Усяслаў ў 1101 г.; вос-жа ён толькі адзін год жыў ў XII веку, але дзяржаўнае і грамадзкае жыцьцё Полачыны яшчэ блізка дваццаць гадоў ішло тым рэчышчам, у якое накіраваў яго Усяслаў. Уміраючы ён пакінуў сямёх сыноў: Давіда, Рамана † 1116, Глеба † 1119, Барыса † 1128, Рогвалада † 1129, Сьвятаслава і Юрыя-Расьціслава, але на вялікі жаль ніадзін з гэтых сыноў ня ўдаўся ў бацька. Самае княства згодна з тагачаснымі традыцыямі падзялілася спачатку на Полацкае і Менскае, а потым яшчэ на драбнейшыя княствы: Ізяслаўскае, Друцкае, Лагожскае, Стрэжэўскае, Віцебскае і ін. Розныя дробныя непаразумленьні між князямі даводзілі да частых закалотаў і войнаў, якія выкарыстоўвалі суседнія князі для аслабленьня Полаччыны і дзеля гэтага часта ўмысна праваквалі сваркі. Кіяўскі князь Уладзімір Манамах два разы рабіў паход супраць менскага князя Глеба Усяславіча, страшэнна апустошыў гарады і вёскі і сам хваліўся, што ў 1118 г. «по Всеславѣ пожегъ землю, идохомъ... къ Менску изъехахомъ городъ и не оставихомъ у него ни челядина ни скотины». Падчас гэтага змаганьня сам Глеб трапіў у палон і хутка (у 1119 г.) памёр у кіяўскім парубе.

Калі полацкія князі за гэткія зьнішчэньні пробавалі адпомсьціцца дык выклікалі новыя паходы. Асабліва няшчасны для полацкіх князёў быў злучаны паход кіяўскіх князёў у 1127 г., з малымі перарывамі змаганьне цягнулася да 1129 г. Пасьля двох гадоў змаганьня нявядома якім чынам кіяўскаму князю Мсьціславу ўдалося захапіць полацкіх князёў Давіда, Расьціслава і Сьвятаслава разам з іхнымі жонкамі і дзецьмі, ды саслаць іх у Царгарод на службу візантыйскаму імпэратару Івану Камнэну, а ў Полацку пасадзіць свайго сына Ізяслава. Але княжаньне гэтага апошняга было настолькі жарстокім, што хутка выклікала агульнае незадаваленьне і бунт, у выніку якога выгналі Ізяслава, а полацкі пасад заняў унук Усяслава Васілько Сьвятаславіч (1132-1143). Пасьля ягонага спакойнага й мудрага княжаньня полацкі пасад пераходзіць яго дваюраднаму брату Рогваладу III Барысавічу, які не заўсёды мог дагадзіць палачанам і загэтым на некаторы час яго былі выгналі ў Менск, заклікаючы адтуль да сябе Расьціслава Глебавіча (1151-1158), але потым зноў вярнулі Рогвалада (1158-1161). Па ягонай сьмерці полацкі пасад пераходзіць у рукі васількавага сына Усяслава II (1161-1170). Спакойны час княжаньня Усяслава Васількавіча, як і ягонага бацькі меў той насьледак, што пасьля ягонае сьмерці палачане замест князя паклікалі «раду старэйшых». Гэты час, празваны «Полацкаю рэспублікаю» (1171-1180), прынёс толькі нутраных закалотаў, што хутка веча зноў паклікала да сябе князя Усяслава Уладзімера Валадаравіча (1180-1217).

Канец XII в. характэрны вялікім раздробленьнем на незалежныя княствы. Цікава аднак заценіць, што ў меру драбленьня княстваў што раз больш адчувалася патрэба аднаго кіруючага цэнтру. Маральным цэнтрам і далей аставаўся Полацк, не зважаючы на сваё аслабленьне. Нават прыбалтыйскія землі з небеларускім насельніцтвам былі залежныя ад Полацку. Праўда гэтая залежнасьць была мінімальная. Толькі ўздоўж

 

Дзьвіны полацкія князі стараліся ўмацаваць сваю ўладу, закладаючы там свае калёніі (Гэрцыкэ і Кукэйнос) у якіх уладу выконвалі адпаручныя князі.

Частыя войны і нават паважныя зьнішчэньні не перашкодзілі Полацку стацца ў XII в. вялікім вогнішчам культурнага жыцьця. Гандлёвыя зносіны лучылі яго з суседнімі і заморскімі краінамі, а тым самым вельмі прычыняліся да ўзбагачаньня так самога гораду, як і ўсяе краіны. Пры гэтам аднак не абыйшлося без адмоўных праяваў. Хутка вытварылася купецкая гілда, якая справы свае кішэні ставіла па-над усё. Міма свае волі купецтва і багацьцё Полацку прывабіла ў суседзтва нямецкіх купцоў да вусьця Дзьвіны, дзе яны каля 1180 г. залажылі горад Іскуль і сваю калёнію. На вечах полацкія купцы так-жа нязраз выклікалі закалоты і падбухторвалі насельніцтва супраць князя, кіруючыся нізкімі матывамі асабістае нажывы. Гісторыкі дагадваюцца, што гэта купцы былі ўтварылі «Полацкую рэспубліку», але ўтрымаць яе не змаглі, выклікаўшы агульнае незадаваленьне.

Маючы на ўвеце вышэйпералічаныя факты частых войнаў, княжых непаразуменьняў і дробнасуседзкіх закалотаў, купецкі засьлеплены гон да нажывы і прыняўшы пад увагу маласьведамасьць масаў, глыбоказакарэненыя паганскія звычаі й абычаі, а так-жа й іншыя факты; калі-б паставіць пытаньне: які-ж дзейнік прычыніўся да культурнага ўздыму краю і народу? Бяз сумніву трэба адказаць, што гэтым дзейнікам была Царква. Яна мусіла прарабіць вялікую працу ў гэтай галіне, перамагчы вялікія перашкоды. Адначасна з евангельскім сьветам ішла граматнасьць і пісьменнасьць. Асьвета прынесеная на Беларусь разам з хрысьціянствам пачынаючы з гарадоў пранікала ў штораз шырэйшыя кругі грамадзтва. Дзе асноўваліся цэрквы — зьяўляліся кнігі. Пры царкве сьв. Сафіі ў Полацку паўстала цэлая бібліятэка ў XII в. Патрэба пісанага слова адчувалася ўсюды штораз мацней. У Полацку, а так-жа і ў іншых гарадох множыліся манастыры у якіх даўней жылі амаль адзіныя фаховыя перапішчыкі-манахі. На пачатку XI в. успамінаецца толькі адзін манастыр у Полацку, але да XIV в. іх налічвалося ўжо 14. Даты іх паўстаньня ў бальшыні няведамыя, але шмат з іх было заложана ў XII веку, як гэта можна бачыць з ніжэйпаданага сьпіску. 1) Барысаглебскі, або Бельчыцкі за Дзьвіною ад 1160 г. — пры ім была мураваная Пятніцкая капліца, 2) Багародзіцкі за горадам аснаваны каля 1150 г. — сёньня няма і сьледу, 3) Багаяўленскі ў горадзе над Дзьвіною — быў да сусьветнае вайны, 4) Вазьнясенскі — ўспамінаецца ў 1553 г., 5) Васкрасенскі ў ніжнім замку (Монцы), аснаваны князем Юрыям — сёньня няма і сьледу, 6) Горадзецкі Міхайлаўскі за Палотаю — быў да сусьветнае вайны, 7) Кузьма-Дзямянскі за Палотою — няма і сьледу, 8) Мікалаяўскі на рацэ Лучне аснаваны ў XIII в., 9) Прадцечанскі на Дзьвінскім абтоку — быў да XIV в., 10) Прэабраженскі або Запалоцкі — няма і сьледу, 11) Пятніцкі за Дзьвіною на рацэ Бельчыцы, 12) Спаса-Еўфрасініскі (жаночы) аснаваны каля 1129 г. — быў да сусьветнае вайны, 13) Троіцкі за Палотаю спалены ў 1579 г., 14) Юр'еўскі ў полі ўспамінаецца ў 1582 г. Бяз ніякіх паясьненьняў сам гэты сьпіс можа служыць вымоўным доказам рэлігійнага ўздыму даўнейшай Полаччыны.

Варта заўважыць, што між назовамі тагачасных кнігаў кідаецца ў вочы параўнаўча вялікая колькасьць жыціяў сьвятых і зборнікаў выказаў сьвятых і філязофаў, трэба думаць, што гэткімі кнігамі цікавіліся ня толькі перапішчыкі-манахі, але й чытачы з іншых кругоў грамадзтва.

Вымоўным паказчыкам духовага узроўню тагачаснае Полаччыны ёсьць факт, што сьвецкія людзі пайшлі за прыкладам манахаў і заснавалі ў Полацку дзесь перад 1158 г. першую ў гісторы ўсходніх славянаў «братчыну», якая сталася першаўзорам для пазьнейшых брацтваў шырока распаўсюджаных на Беларусі і ў суседніх народаў. Відаць, што хрысьціянскія асновы паволі ўвайходзілі ў практычнае штодзеннае жыцьцё. Нажаль мала ёсьць вестак аб гэтым жыцьці ў летапісях, але аб гэтым даслоўна толасна галосяць каменьні.

У цяжкіх для княства хвілінах полацкія князі і самі шукалі падтрыманьня ў малітве, і народ да гэтага заахвочвалі. Часта свае малітоўныя заклікі яны высякалі на каменьнях, каб кожнаму падарожнаму прыпомніць аб гэтай просьбе. Найбольш такіх памятак пакінуў па сабе Барыс Усяславіч і яго сын Рогвалад, таму часта гэтыя камяні называюць Барысавымі. Некаторыя з іх загінулі бясьсьледна, іншыя былі зьнішчаны нядаўна. Да сёньняшняга дня ёсьць весткі аб адзінаццаці такіх камянёх, з якіх 6 уласьціва Барысавых, рэшта — іншых князёў. Знаходзяцца яны выключна на абшары калішняга Полацкага княства. Першы Барысаў камень знайходзіўся ў рэчышчы Дзьвіны 5 км. ад Полацку, 2-і так-жа у Дзьвіне 5 км. ніжэй Дзісны, 3-і ўсяго 2 км., ніжэй ад другога, 4-ы у вёсцы Высокі Гарадзец Магілёўскае акругі, дня 14-VII-1937 яго бальшавікі ўзарвалі, 5-ы ў Друі на беразе Дзьвіны, 6-ы ў вёсцы Каменка Вялейскага пав., 7-ы Рагвалодаў камень з датаю 1171 г. між Оршаю і Коханавам, 8-ы камень званы «Суліборь хрьст» быў знойдзены ля трэцяга Барысавага каменя ў Дзьвіне і перавезены ў Маскву ў 1879 г., 9-ы камень «Сьвягаполк-Аляксандар» у Дзьвіне ля мястэчка Краслаўка ўзарваны ў 1818 г., 10-ы Вілюйскі камень — зьнішчаны ў 19 ст., 11-ы «Барысаглебскі» камень ля Нараўскіх парогаў у Дзьвіне быў узарваны ў 1818 г. Акрамя вышэйпералічаных камянёў з напісамі было шмат камянёў толькі з крыжамі. Варта асаблівае ўвагі, што на ўсіх камянёх паўтараецца той самы малітоўны кліч: «Госпадзі памазі рабу сваему...» (далей ідзе імя: Барысу, ці Рогваладу). Гэткі самы напіс шырока ўжываўся ў тагачаснай Візантыі на манэтах, пячатках, мэдаліёнах і пад. Магчыма, што яго пераняалі полацкія князі вярнуўшыся з Візантыі, але карысталіся ім на свой лад.





Крыж на ўсіх камянёх мае тую самую форму; гэта той самы крыж на ўзор якога Лазар Богуш у 1161 г. зрабіў славуты крыж для сьв. Еўфрасініі, а схэма гэтага крыжа знайходзіцца на шчыце ў рыцара Пагоні. Магчыма, што да гэткага крыжа маліўся Усяслаў Вялікі седзячы ў парубе. Ці не прадчувалі князі, што цяжкі крыж чачае бацькаўшчыну, калі з такою пабожнасьцю да яго зьвярталіся?

Палачане ў XII веку ня толькі ўмелі перапісваць кнігі, яны ўмелі іх самі ўкладаць, мелі нямала дойлідаў, якія ўмацоўвалі мурамі гарады і ўпрыгожвалі іх велічнымі сьвятынямі; пайменна ведамы ў XII веку толькі дойлід Іван. Мелі нават такіх майстроў якія апанавалі верх тагачаснага візантыйскага мастацтва; адным з гэткіх майстроў быў Лараз Богуш.

Усе гэтыя факты змушалі нават напрыхільных для нас гісторыкаў прызнаць, што тагачасная Полаччына стаяла на высокай ступені культурнага разьвіцьця.

Няма найменшага сумніву, што узрост культуры і пашырэньне асьветы было ў найцясьнейшым зьвязку з пашырэньнем хрысьціянства і пераважна знайходзілася ў руках духавенства, але гісторыя нам не захавала імёнаў гэтых духоўных працаўнікоў. Нават з тагачасных полацкіх япіскапаў ведама толькі некалькі імёнаў: Міна (1105-1116), Ільля (1120-1129), Козма грэк (1143-1156), Діонізій (1167-1182), Нікалай грэчын (1183- ), Кальліст, Уладзімір каля 1218. Гэта імёны і толькі імёны, аб іхняй дзейнасьці захавалася толькі некалькі дробных вестак.

У адмену ад дзяржаўных закалотаў, рэлігійнае жыцьцё Полаччыны прайходзіла ціха і спакойна. Вышэй пералічаліся тыя дзялянкі жыцьця на якіх меў уплыў духовы рост нядаўна пасеенага зернятка хрысьціянства, тут варта падчыркнуць, што ў XII в. гэтае зернятка ня толькі буйна разраслося, але пачало расьцьвітаць прыгожымі кветкамі. Найбольшаю з іх ёсьць сьв. Прадслава-Еўфрасіня заснавальніца і першая ігуменьня Спасавага манастыра. Яна запраўдная дочка Беларусі XII в. У яе асобе адлюстроўваецца і веліч і цярпеньне роднага краю. Яе дзейнасьць у Полацку пакінула па сабе нязьнішчальны сьлед.

**а. Л. Гарошка.**

# МАЛІТВАСЬПЕЎ

Сьвятога Францішка з Асіжу паводля Ф. Брэнтана.
На беларускую мову пераклаў
**Тодар Дуброва.**

1.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары,
найбольш за сонейка — сястрыцу мілу —
стварыў што Ты!
Бо пышнае яно ў сваіх праменьнях! —
мне золак дорыць, шле сьвятло паўдня,
ды хварбаў пералівістым ірдзеньнем
малюе неба захадам штодня.
Вясьняны цьвет, калосьсе летам ў полі,
асеньні плод — я маю ад Цябе;
аб велічы Тварца за ўсіх найболей
ты весьціш мне.

2.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары,
за брата-месяца і зорак мілых,
стварыў што Ты!
Бо разьясьняюць цемру маёй ночы,
ліюць у сэрца супакой,
абы узьняў да неба толькі вочы —
зіяньнем гояць боль.
Так і ў сусьвеце бесканечным
я не адзін —
праз зораў шэлест з неба Вечнасьць
мой сочыць чын.

3.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары
і за паветра вольнага стыхію
стварыў што Ты!
лагоднай сінявой яно із далі
лялее, песьціць позірк мне,
а ўлетку студзіць ветранаю хваляй
ад сьпекі чэлесы мае.
І над краінамі усімі сьцеле
вандроўных хмараў абрусы,
ды з ласкай матчынаю дзеле
кругом ажыўчыя дажджы.

4.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары



 

і за агня палаючую сілу
стварыў што Ты!
Ён дужы й стройны! — жар яго чырвоны
зялеза топіць гарт;
З мае-ж сьвячы лагодны блеск ягоны
ліе утульны чар.
Жыльлё зімою верна ахінае
сваім цяплом,
ды ноччу яркім блескам напаўняе
мне цёмны дом.

5.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары
і за ваду — сястрыцу маю мілу —
стварыў што Ты!
Краса зямлі ў крыштальных ейных тонях
адбітак мае свой;
нястрымных хваляў сваіх гонам
калыша човен мой.
Вандроўным вусны асьвяжае ўлетку
глытком малым,
купаньнем цела, сьпекаю нагрэта,
халодзіць ім.

6.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары
і за зямліцу — матку маю мілу —
стварыў што Ты!
Яе нязьведанай магутнай сілай
паўстала зелені ды дрэў краса,
отварэньнем найдзіўнейшым ажывілась
вада, паветра і зямля.
І мне маё слабое быццам цела
дала, як для другіх,
ды ўкласьці найсьмялейшае сумела
мастацтва рук маіх.
Другому думку перадаці можа
язык, ды так дваіх ў адно злучыць,
што з двух грудзей адзін сьпеў гожа
Тварцу на славу загрыміць.

7.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары
і за сьвятых ды мудрацоў, якія
хвалу табе далі!
Братом сваім з пакорай што дарылі
багаслаўленьне за праклён,
ды ненавісьць любоўю асілілі
і ліха нішчылі дабром.
Хоць моц Тваю усе вясьцілі ў мольбах,
а ўсё-ж лягла
на скораным ня раз няўхільна, цьвёрда
Твая рука!

8.

МОЙ БОЖА, слаўлю Цябе шчыра
за ўсе Твае дары,
за боль таксама, ды за сьмерці сілу
даеш што Ты!
Дачасны толькі боль і ён загіне,
настане радасьці пара,
сястрыца-сьмерць калі адчыне
вароты вечнага жыцьця.
Шчасьлівыя, што ў Богу засынаюць, —
бяз страху могуць паміраць,
бо ласка вечная на іх чакае
і сьмерці больш ня будуць знаць.

# ЯК У КАЗЦЫ

Хто быў на Палесьсі, напэўна мусіў чуць аб Жоўтынскім лесе. Не аднаму ён пушчай здаваўся, такія там расьлі вынёслыя хвоі. Але былі ў ім зьявіліся жыхары, якія вельмі нядобрай славай акрылі гэты лес.

Дзеялася гэта ня так даўно, усяго паўтара дзясятка год таму. У адным з самых глухіх куткоў лесу асялілася нейкая старэйшая кабета з сваімі трымя рослымі, як дубы, сынамі. Мала хто ведаў, як яны жывуць, але на кірмашох іх можна было бачыць часта.

І вось аднойчы ў Серніках, калі якісьці стары дзядуля, прадаўшы цялушку, пералічваў атрыманыя грошы, дык недалёка ад яго *знайшліся* ўсе тры лясныя дзяцюкі і так пільна сачылі за старым, што той аж аглянуўся і, спаткаўшы іх позіркі, пасьпешна схаваў грошы.

Разам з старым была на кірмашы ягоная ўнучка, яна памагала гнаць цялушку. Цяпер стары нічога ня кажучы, ўзяў унуку за руку і хутка выйшаў з скоцкага рынку. Ён яшчэ завінуўся зайці ў некалькі крамаў, купіць што было патрэба і ня баўлючыся пайшоў дамоў.

Гутарка з унукаю нешта ня клеілася, дык ішлі моўчкам. Як толькі яны даходзілі да Жоўтынскага лесу іх абмінулі на самакатах тры лясныя чалавекі, ды абмінаючы так глянулі на старога, што той аж сумеўся.

— Ой, нешта нядобрае мусіць будзе, загаварыў стары.

— Чаму, дзеду?

— Кепскімі вачыма на нас яны глядзелі.

— Дык схаваймася.

— Няма ўжо як хавацца, ды няма дзе, яны гэты лес ведаюць лепш як сваю кішэню. Тут мусіць будзе ўжо мая апошняя гадзіна.

— Дык што-ж рабіць, дзедку? трывожна пазіраючы на старога, гаварыла ўнука.

— А ўжо, што будзе, то й будзе. Мне ўжо ўсёроўна ня доўга туптацца па зямлі. Уцякаць я ўжо ня дуж, але ня дай Бог бяды, пэўна на мяне наваляцца, дык на табе грошы, і як што да чаго, уцякай і Богу маліся за сябе і за маю душу.

— Як, дзедку, маліцца?

— Як умееш.

Лес пачаў гусьцець, сонца ўжо відаць ня было, як бачыш пачынала сутанець. Навокал было ціха, таму й яны замоўклі.

Раптам з-за дрэваў высунуліся тры постаці і падскочылі да старога з крыкам:

— Давай грошы!

— Ня маю, людзі добрыя.

— Што ты нам «людзі добрыя», грошы давай падобраму, а то...

Што далей там рабілася ўнучка ня бачыла. Яна, як спалоханая сарна, імчалася, колькі мела сілы, у гушчу лесу. Задыхаўшыся яна звольніла бег, але ня спыняючыся, ішла далей. Нават плакаць баялася, каб хто не пачуў.

Ужо зусім было цёмна ў лесе, як яна ўбачыла між дрэваў агоньчык і пабегла туды. Аж бачыць на невялікай прагаліне стаіць нейкая хата, у вокнах агонь сьвеціцца. Чым дуж малая падбегла да дзьвярэй і пастукалася. Дзьверы хутка адчыніліся і старая, але шустрая кабета спыталася сухім голасам:

— Чаго ты хочаш, малая?

— Я-я...я, — бойныя сьлёзы і плач на ўзрыд ня даў малой гаварыць. Нявінныя дзіцячыя сьлёзы, відаць, зьмякчылі сэрца, а з ім і голас старое; яна пачала лагодна супакойваць малую. Выплакаўшы першы горкі жаль, малая супакоілася і расказала ўсё, што з ёю трапілася ў лесе. Сваё простае апавяданьне яна кончыла:

— Мусіць ужо мой дзедка ня жыве, бо грошы ён аддаў мне, дык што-ж ён ім аддасьць. А цяпер я сама баюся хадзіць па гэтым лесе, бо заблудзілася, ды цёмна ўсюды.

— Ня бойся, мая ягадка, гаварыла старая ўжо ня толькі лагодным, але прытарна салодзенькім голасам, вось пераначуеш тут, а заўтра я цябе завяду на дарогу. Можа-б ты зьела што?

— Ня хочацца мне, бабка, нічога есьці.

— Ну дык лажыся супачыць. Вунь на печы будзе табе цёпленька і мякка.

Малая не спрачаючыся палезла на печ, а старая яе далікатна падсаджвала. З печы нейкі час чуліся прыгушаныя ўсхліпы, потым ціхі шэпат, а потым настала поўная ціша. Старая ўважна прыслухоўвалася да кожнага руху малое.

Незадоўга гучна расчыніліся дзьверы і трох дзябёлых мужчынаў ўвайшлі ў хату.

— Няўдача сёньня! голасна загаварыў першы.

— Цішэй троха, зашапацела старая, а малая на печы аж скалынулася ўсім целам, пачуўшы той самы голас, які казаў «давай грошы». Яна адчула, што трапіла ў пастку.

— Ат, што там цішэй, адно дарэмна рукі запэцкалі, а птушка з гр... старая зачыніла яму далоньню рот і, паказваючы галавою на печ, шаптала:

— У нас гэтая птушка на печы сьпіць.

Усе прыціхлі, нешта пашапталіся, а потым з удаванаю абыякавасьцю старая загаварыла.

— Сядайце вячэраць, нябось нахадзіліся за дзень.

— Вячэраць, дык вячэраць, весёла азваўся той сам голас.

Яны вячэралі, а малая на печы, шчаміўшы рукі ў кулачок, ляжала ніцма і толькі магла паўтараць:

— Божанька, Міленькі, ратуй!

Калі за сталом зноў пачалі нешта шаптацца, малая ўся замянілася ў слух. Да яе вушэй далятали нязьвязныя сказы.

— Як-жа з ёю будзе? цяпер ці потым?

— Што там чакаць, трэба-ж яшчэ поначы прыпратаць.

— Дык чым яе, нажом, ці якою вяроўкаю?

— Лепш так, каб рук ня трэ' было пэцкаць і потым менш прыбіраць.

— Ну, дык пашлі!

Шаргануўся зыслон і пачуліся моцныя крокі. Малая сама не свая дрыжучы ўсім целам, зашылася ў самы куток печы. Нявінная і бездапаможная чакала страшнае хвіліны.

Толькі тамтой зьбіраўся лезьці на печ, як дворышча асьвяцілася чырвоным сьветам.

— Што гэта так ясна на дварэ?

— Ах мая, закрычала старая, пажар, наша гумно гарыць!

Усе кінуліся з хаты, а за імі кулём з печы скацілася малая ды кінулася наўцёкі. Прыпадкам яна выбегла на дарогу і якраз натрапіла на грамаду людзей, якія беглі на пажар. Гэта былі лясьнікі ў сваіх зялёных шапках і паліцыя між імі. Малая падбегла да іх, просячы ратунку.

Гумна тушыць ужо ня было чаго, але ваколіцу выратавалі ад разбойнікаў, якраз тады, калі самыя разбойнікі найменш гэтага спадзяваліся. Нямала пралілі яны нявіннае крыві, але з найдаўнейшых часоў ведама, што людзкая кроў дарма ня гіне. Хутка пасьля гэтага ў Століне быў суд. Дорага заплацілі за свае злочыны ўсе тры галаварэзы разам з сваею маткаю, а дзеда людзі пахавалі з вялікаю ўрачыстасьцю і магілу яго штогод абсаджвалі кветкамі.

**А. Жменя.**

З цыклю «Таёмнасьці»).

Клубок таёмнасьці я не разматаў яшчэ.
А дзень за днём праходзіць.
І сонца вечнаю зямлю агнём пячэ...
Ноч настае. Зямля ізноў
празрыцца цьвёрдым лёдам.

***

Я йду. О, Божа мой,
каўзаюся за кожным крокам!
Усходзіць сонца. Я пэўнаю ступой
вось зараз стану за гэтым паваротам...
— Стой!..
І шукаюць дарэмны мае вочы
у сэрцах іхных россыпі любові.
1948.

**Я. Юхнавец.**

# На рэлігійнай ніве

### Новы падзел

Залезная заслона, якая адзьдзяляе Савецкі Саюз і падсавецкія краіны ад рэшты сьвету зацягаецца штораз мацней і на царкоўнае жыцьцё. Гэта асабліва дало сябе адчуць у зьвязку з выбарам новага Праваслаўнага Візантыйскага Патрыярха. На ўрачыстасьці інтронізацыі сучаснага візантыйскага патрыярха Атэнагора, якая адбылася 27-га студзеня г. г. у Стамбуле ня было ніаднаго прадстаўніка ад Праваслаўных Царкоў з падсавецкіх краінаў. У турэцкіх праваслаўных кругох гэты факт паясьняюць як выяў няпрызнаньня новага Патрыярха, супраць кандыдатуры якога падымаліся няпрыхільныя галасы з Масквы задоўга перад выбарамі.

### Прасьлед у Мадзяршчыне

Насельніцтва Мадзяршчыны ў 67% каталіцкае, а ўлада камуністычная, не зважаючы на тое, што падчас галасаваньня камуністы здабылі толькі 21% галасоў (ды й то якім спосабам?). Калі гэтая ўлада пачала праводзіць свае рэформы і спрабавала пазбавіць Царкву магчымасьці ўзгадаваньня моладзі, напаткала на рашучы адпор з боку каталікоў. Усе некаталіцкія веравызнаньні бяз супраціву прынялі гэтыя рэформы. Пабачыўшы, што ў змаганьні за хрысьціянскія прынцыпы Каталіцкая Царква асталася адна, камуністы павялі супраць яе страшэнную атаку і ўканцы пастанавілі сіламоц зламаць яе супраціў. Дня 27-XII-48 арыштавалі прымаса Мадзяршчыны кардынала Міндсэнті. Каб, для замыльваньня людзкіх вачэй, апраўдаць гэты нячуваны ў гісторыі ўчынак, камуністы выдумалі цэлую гісторыю аб зьвязку кардынала з манархістамі, з замежнымі краінамі, аб гандлю дэвізамі і ін. Гэтыя беспадстаўныя абвінавачаньні выклікалі абурэньні і пратэсты даслоўна ўва ўсім пазасавецкім сьвеце. У адказ на гэта камуністы выдалі «Жоўтую кнігу» з факсыміліямі «прызнаньня да віны» кардынала. Але гэтым камуністы скампрамітавалі сябе дарэшты, бо аналіз факсымiліяў выказаў, як ня трэба лепш, сакрэт савецкага энкавэдэ ў абязвольваньні іхных ахвяраў рэнымі мэдыкамэнтамі. Характар пісьма і шматлікія памылкі паказалі, што за кароткі час у турме зьнішчылі нэрвовую сыстэму кардынала. Не зважаючы на гэта, камуністы пасьпяшылі правесьці судовы працэс. «Суд» над кардыналам Я. Міндсэнті і ягонымі блізкімі супрацоўнікамі прайшоў вельмі хутка ў днёх 3-7 лютага. Кардынала засудзілі на дасьмертную вязьніцу, а супрацоўнікаў на меншыя кары. Сам «суд» быў на толькі скандальным, што ў судовую залю не дапусьцілі пазасавецкіх журналістаў, ані дыпляматычных назіральнікаў. Увесь сьвет зжахнуўся пачуўшы прысуд на кардынала. Не аднаму толькі цяпер стала ясна перад якою пагрозаю знайходзіцца сучаснае людзтцва і эўрапэйская культура.

Пратэсты супраць прысуду, дэманстрыцыі ды інтэрвэнцыі ўрадаў арганізацыяў і насельніцтва не перастаюць наплываць у Будапэшт, а спачуваньні на рукі Сьвяцейшага Айца ў Рыме.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

**БАЦЬКАЎШЧЫНА.**

### Пастырска-дзякоўскія курсы.

Першы раз у Менскай епархіі адбыліся летась (27-VI да 27-VII) месячныя курсы ў двох групах: для духоўных (42 чалавекі) і дзякоў (45 чалавек). Праводзіліся курсы ў Жыровічах. Найважнейшым прадметам былі абрады. Цікава, што цяпер нават для душпастырскіх курсаў няма мейсца ў Менску, а калісь было пастаноўлена ў Маскоўскім Патрыярхаце, што ў Менску мае быць Духоўная Сэмінарыя.

### Перамяшчэньні.

Ад верасьня мінулага году яп. Паісій (Образуев) перанесены з Іванова ў Берасьце, для якога зрэштаю ён і быў харытанізаваны ў 1944 г. За гэты кароткі час яго пераносілі аж тры разы (Саратов, Чарнігаў, Іванова), а за чацьвёртым разам вярнуўся на старое мейсца. У міжчасе Берасьцейскай епархіяў па суседзку кіраваў пінскі архіяп. Данііл (Юзьвюк), рэпатрыяваны ў 1946 г., але відаць ён не спраўляўся з вымогамі ўладаў.



### Давер Менскаму Архіяпіскапу.

Падчас урачыстасьцяў з нагоды 500-ых угодкаў Маскоўскае Аўтакефаліі менскі архіяпіскап Пітірым (Свірыдов) меў адказнае заданьне ад савецкіх уладаў, суправаджаць замежныя царкоўныя дэлегацыі падчас прагулкаў у Ленінград і Грузію. Відаць не дарма ён атрымаў ў 1946 г. ад гэтых уладаў мэдаль »За доблестный труд».

**АНГЛІЯ.**

### Легалізацыя ЗБВБ.

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі з днём 24-XII-48 афіцыяльна апублікавана адпаведнымі ангельскімі ўладамі як поўнапраўная арганізацыя і тым самым сталася першаю праўнаю беларускаю адзінкаю на абшары Вялікае Брытаніі.

### «Выстаўка сьв. Літургіі».

У Каршолтон на працягу трох дзён (13-15 студзеня г. г.) адбывалася вельмі цікавая выстаўка пад назовам «Паказ Літургіі» у якім узялі ўдзел розныя каталіцкія арганізацыі, законы й фірмы. Выстаўка была так наладжана, каб вока і вуха наведвальнікаў магло нацешыцца ўсім тым, што мае прыгожага Каталіцкая Царква ў кульце сьвятое Літургіі. Там можна было пабачыць розныя выдавецтвы царкоўных кніжак, царкоўныя судзіны, сьвятарскія аблачэньні і пад. Можна было пачуць даклады такіх вызначных людзей, як а. Мартайндал і ін. На запросіны арганізатараў Беларуская Каталіцкая Місыя ў Лёндане так-жа зладзіла свой адзьдзел, які хаця і быў скромны, але сваею арыгінальнасьцю шмат каго прыцягнуў і зацікавіў. Тут можна было пабачыць аблачэньні бізантыйска-славянскага абраду, чашу з дыскасам, іконы і літургічныя кнігі найнавейшага Ватыканскага выданьня. Пасьля закрыцьця выстаўкі ў нядзелю 16-І Рэктар Беларускае Каталіцкае Місыі а. др. Ч. Сіповіч адслужыў у прыхадзкой царкве ў Каршолтон Бічыс для ангельскіх вернікаў сьв. Літургію і сказаў казаньне. Падчас Літургіі ўдала сьпяваў хор беларускіх хлапцоў.

### Кніжка ў 18 мовах.

Нядаўна ў Лёндане выдана карысную для чужынцоў кніжку аб тым, як выспаведацца перад сьвятаром, які ня знае мовы каяньніка. Выдаў яе Камітэт Помачы Уцекачом прыехаўшым на працу ў Англію. Падобная кніжка выдаецца ня ў пяршыню, але першы раз знайшла ў ёй мейсца беларуская мова побач іншых 17 моваў. Мэтай кніжкі ёсьць, дапамагчы тым, якія жадалі-б выспаведацца, але ня знаюць чужое мовы і ня маюць блізка свайго сьвятара.

**БЭЛЬГІЯ**

### Даклад аб Беларусі ў Лювэне

На запросіны Таварыства Міжнародных Студыяў Лювэнскага Унівэрсытэту (ў Бельгіі) 1-га лютага г г. быў прачытаны даклад сп. прэзыдэнтам М. Абрамчыкам на тэму «Мінулае і сучаснае Беларусі». Самы прыезд сп. прэзыдэнта М. Абрамчыка ў лона Лювэнскага Унівэрсытэту выклікаў глыбокае зацікаўленьне. З гэтае нагоды была зарганізаваная гарбатка, на якую былі запрошаны выдатныя прадстаўнікі бэльгійскае навукі. Падчас гарбаткі новапрыбыўшыя з Нямеччыны беларускія студэнты адсьпявалі некалькі беларускіх народных песень, якія з вялікай увагай і сымпатыяй слухалі бэльгійскія вучоныя.

Даклад Прэзыдэнта выклікаў вялікае зацікаўленьне і сьцягнуў паважную колькасьць слухачоў.

Варта зацеміць, што Лювэнскі Унівэрсытэт зьяўляецца ня толькі выдатным культурным асяродкам Эўропы, але так-жа паважным міжнародным цэнтрам. Там апрача бэльгійцаў ёсьць студэнты 45 іншых нацыянальнасьцяў. Беларусы там знайшліся нядаўна, але здабылі ўжо сталае мейсца.

### Беларуска-Бэльгійскі Камітэт

Для апекі над беларусамі ў Бэльгіі ў першую чаргу над студэнтамі арганізаваны «Беларуска-Бэльгійскі Камітэт» на чале якога стаіць прафэсар Лювэнскага Унівэрсытэту В. Дэні (V. Denis), сакратаром ёсьць а. др. Р. Ковэлерт (сын прэзыдэнта бэльгійскага сойму), ад беларусаў увайходзіць студ. мэдыцыны Б. Рагуля.

Усе беларускія студэнты у Бэльгіі, якіх сёньня ёсьць 13, вельмі добра забясьпечаны матэрыяльна і маюць вельмі добрыя ўмовы для студыяў. Ужо маюцца фонды для набыцьця спэцыяльнага дому для беларускіх студэнтаў. Хутка лік нашых студэнтаў у Лювэне павялічыцца.

**НЯМЕЧЧЫНА**

### Дзейнасьць «Харытасу».

Ватэнштэцкі Адзьдзел Беларускае Харытатыўнае Службы, не зважаючы на неспагадлівыя адносіны і перашкоды розных адзінак, памысна разьвівае сваю дзейнасьць. Дзякуючы стараньням «Харытасу» на сьвяты было атрымана значную колькасьць падарункаў ад НЦВГ. Разьмяркаві іх запраўды пахрысьціянску, не абмінаючы нават

тых, што перешкаджалі ў працы і насьміхаліся. З дапамогаю Харытатыўнае Службы праведзена запіс на эміграцію ў ЗША. Записалася больш 300 асоб, хоць і тут не абышлося без перашкодаў.

## ФРАНЦЫЯ

### Перавыбары Управы

Дня 16-І г. г. падчас гадавое сходкі Парыскага Адзьдзелу Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі адбылася справаздача дзейнасьці Адзьдзелу за мінулы год, намечана праграма дзейнасьці на бягучы год і праведзена перавыбары Управы Адзьдзелу ў склад якога ўвайшлі: старшыня — А. Монід, сакратар — В. Спічонак, скарбнік — В. Міцкевіч, рэфэрэнт культуры — М. Лысуха, рэфэрэнт спорту — У. Дыдышка. Адначасна выбрана Наглядную Раду і Сяброўскі суд.

### Госьці з Нямеччыны

Ад 18-І да 24-І гасьцілі ў Парыжу паважныя госьці з Брытыйскае Зоны Нямеччыны дактары В. Тумаш і Гагалінскі. Карыстаючы з гэтае нагоды Беларускі Хрысьціянскі Сындыкат запрасіў іх зрабіць даклад аб беларускім жыцьці ў Брытыйскай зоне Нямеччыны. Даклад адбыўся 23-І прайшоў з вялікім зацікаўленьнем.

### Беларускі Каляндар

Стараньнем Беларускага Выдавецкага Фонду ў Францыі выйшаў з друку насьценны каляндар у апрацоўцы маладога мастака М. Наумовіча. На прыгожай сьценцы знайходзяцца адрыўныя лісткі в усімі сьвятымі праваслаўных і каталіцкіх сьвятаў між якімі першы раз памешчана ўсіх беларускіх сьвятых.

## МА ЧЫТАЧОЎ

У зьвязку з агульным ростам цэнаў мы змушаны падняць цану прэнумэраты нашага часапісу да 40 фр. за нумар (350 фр. у год), але адначасна зьменшыць тыраж. У выніку гэтага на прышласьць будуць атрымоўваць «Божым шляхам» толькі тыя, хто ўрэгулюе справу падпіскі. Гэты нумар, як першы у гэтым годзе, выняткова высылаем яшчэ ўсім ранейшым чытачом, але адначасна зьвяртаемся да іх з заклікам урэгуляваць сваю падпіску і падтрымаць наша выдавецтва.

## ЗАЛАТЫЯ ДУМКІ.

З беларускае народнае творчасьці.

Пад кім лёд трашчыць, а пад кім і ломіцца.
Пажалеў воўк кабылку, пакінуў хвост і грыўку.
Па заслузе заплата.
Пойдзем бабка ў чужую вёску, даведаемся, што робіцца ў нашай.
Пакуль я плакаў, быў Бог аднакаў; як стаў сьпяваць, стаў Бог даваць.
Па няволі ня плачуць.
Папраўдзе сьмяецца той, хто сьмяецца апошні.
Парою сена косяць.
Пасьпех — людзям на сьмех.
Пережылі канстытуцыю, пережывём і гэтую долю куцую.
Ператрэцца, перамнецца — мука будзе.
Прамаўчанае слова ня псуе.
Пі горкае, еж кіслае — пампрэш, ня згнееш.
Прастата сьвятая, яе-ж і на зубы падымаюць
Праўда груба, да Богу люба.
Праўда, як аліва — на верх выплывае.
Працуй, нябожа, і Бог дапаможа.
Прывярэдліваму сам чорт не датодзіць.
Птушку сільём, а чалавека словам ловяць.
Пустая бочка голасна зьвініць.
Пустое птушкі, пустая і песьня.
Пусты колас дагары стаіць. Колас, што зярнят ня мае, дагары лоб падымае.

## ПОШУКІ

Сына **Храпко Захара,** нар. 6-ІХ-1919, шукаюць бацькі Хведар і Адара Храпко. Весткі слаць на адрыс:
**Herr Chrapko Fedor, DP-Lager 701, Ried i. Inn, Ober-Oesterreich, Austria.**

Сястру **Давідовіч Альжбету,** нар. у засьценку Жардэцкім, пражываючую цяпер у Нью-Ёрку, шукае Міхалёнак Софія. Пісаць на адрыс: **M-me Michalonek Sophie, Mines d'Or, Chatelet No. 4 par Budelière, (Creuse), France.**
«Беларуса ў Амэрыцы» просім перадрукаваць.

**Чамбаровую Наталю** з дачкой **Валяй** шукае Лукшын Валодзя. Весткі слаць на адрыс радакцыі.

## ЗЬМЕСТ.


| | |
|---|---|
| Ахвярнасць | 1 |
| а. Лазар — Манлівая вера | 3 |
| В. Друя — Ты і яна. | 5 |
| а. Леў — Рэлігія падымае чалавека | 7 |
| а. Л. Гарошка — Полаччына ў XII в. | 8 |
| Т. Дуброва — Малітвасьпеў сьв. Францішка | 11 |
| А. Жменя — Як у казцы | 12 |
| Я. Юхнавец — З цыклю «Таёмнасьці» | 14 |
| На рэлігійнай ніве | 14 |
| Беларуская хроніка | 14 |
| Залатыя думкі | 16 |
| Пошукі | 16 |


Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.